# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Чацвер, 15 верасня 1994 года | № 98 (10798) | Цана 30 руб.

## СЕСІЯ АБЛАСНОГА САВЕТА

Учора адбылася XYII сесія абласнога Савета дэпутатаў XXI склікання. Яна разгледзела пытанне "Аб рабоце выканкома па стабілізацыі эканомікі і ўкараненню рыначных адносін у аграпрамысловым комплексе вобласці". З дакладам выступіў першы намеснік старшыні выканкома **А.М.Жук** (даклад друкуецца на 2-й старонцы "Мінскай праўды"). Садаклад зрабіў старшыня пастаяннай камісіі па аграрных пытаннях, прадуктах харчавання і сацыяльнаму развіццю вёскі **К.К.Дзягілеў.** У спрэчках прынялі ўдзел **Л.І.Кадлубовіч** — Дзяржынская сельская выбарчая акруга № 75, старшыня калгаса імя Дзяржынскага, **У.М.Луцкі** — Блеўчыцкая выбарчая акруга № 93, дырэктар міжгаспадарчага прадпрыемства "Капыльскае", **А.Г.Максімовіч** — Гарадзейская выбарчая акруга № 191 Нясвіжскага раёна, дырэктар цукровага камбіната, **В.І.Малішэўскі** — Першамайская выбарчая акруга № 65, старшыня Валожынскага райвыканкома, **А.П.Радзюк** — Рачкавіцкая выбарчая акруга № 227 Слуцкага раёна, генеральны дырэктар аграфірмы "Рачкавічы", **А.А.Саматохін** — Кастрычніцкая выбарчая акруга № 267 Салігорскага раёна, старшыня праўлення Мінскага банка "Белаграпрамбанка", **В.А.Седзін** — Маісееўшчынская выбарчая акруга № 41 Барысаўскага раёна, дырэктар саўгаса "Гвардыя", **Р.М.Толкач** — Крупская выбарчая акруга № 99, генеральны дырэктар прадпрыемства "Амкадор-Можа", **Э.І.Умэцкі** — Астрашыцкая выбарчая акруга № 110 Лагойскага раёна, старшыня калгаса "Лагаза", **І.М.Шнітоўскі** — Вязынская выбарчая акруга № 52 Вілейскага раёна, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання райвыканкома.

Па абмеркаванаму пытанню прынята рашэнне.

Старшыня пастаяннай камісіі па пытаннях законнасці, правапарадку і барацьбы са злачыннасцю **В.М.Дзямідовіч** далажыў аб ходзе выканання рашэння XII сесii абласнога Савета "Аб рабоце ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю і іншымі антыграмадскімі праяўленнямі". У прынятым рашэнні адзначаецца, што ў Вілейскім, Любанскім, Мядзельскім, Пухавіцкім раёнах некалькі скарацілася злачыннасць, палепшылася крымінагенная абстаноўка. Разам з тым УУС аблвыканкома не прад"яўляе дастатковай патрабавальнасці да кадраў органаў унутраных спраў за своечасовае папярэджанне і раскрыццё злачынстваў. Сёлета за першае паўгоддзе засталіся не раскрытымі больш чым 3,5 тысячы злачынстваў, у тым ліку 318 цяжкіх. Прапанавана аблвыканкому, гарадскім і раённым Саветам дэпутатаў, УУС працягваць работу па выкананню рашэння абласнога Савета, звярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэнне ролі і адказнасці кіраўнікоў ва ўмацаванні дысцыпліны, законнасці і правапарадку.

У адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, пратэстам пракурора вобласці на п.10 рашэння абласнога Савета народных дэпутатаў № 156 ад 27 кастрычніка 1993 г. абласны Савет вырашыў унесці змены ў гэтае рашэнне наступнага зместу: у першай і другой частках арт.10 выключыць словы "іншым грамадзянам", замяніўшы іх на "асоб, якія не маюць грамадзянства Рэспублікі Беларусь".

На аснове Закона Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", прапаноў Мінскаблдзяржмаёмасці і аблсельгасхарча абласны Савет вырашыў унесці змены ў дадатак № 1, зацверджаны рашэннем сесіі абласнога Савета ад 14 красавіка 1993 г. № 137 "Аб фарміраванні камунальнай уласнасці, праграме прыватызацыі, парадку і межах распараджэння і кіравання маёмасцю, якая знаходзіцца ў абласной уласнасці", выклаўшы пункт 3.25 у наступнай рэдакцыі: "Вытворчая база Мінскага аблаграпрамэнерга ў п.Калодзішчы — доля дзяржаўнай маёмасці".

Сесія абласнога Савета дэпутатаў прыняла Зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У ім гаворыцца:

**Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка праведзена дэнамінацыя разліковага білета Нацыянальнага банка. Будучы ў прынцыпе згодныя з прынятым рашэннем, мы лічым, што гэтая акцыя істотна ўшчаміла і парушыла правы на ўласнасць укладчыкаў Ашчаднага банка.**

**Сутнасць у наступным. Дэнамінацыя закранула не толькі ўклады, унесеныя ў разліковых білетах Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, але і тыя, якія былі пакладзены ў ранейшых грашовых адзінках (у рублях) да 28 ліпеня 1993 года — да моманту фактычнага іх вываду з абарачэння. Мала таго што гэтыя рэшты па ўкладных рахунках абясцэніла інфляцыя, іх зменшылі яшчэ ў дзесяць разоў. Што асабліва балюча ўдарыла па сельскаму жыхару і пенсіянерах, якія захоўваюць грошы ў Ашчадным банку.**

**Звяртаемся да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Вярхоўнага Савета з прапановай ажыццявіць кампенсацыю грашовых укладаў насельніцтва. Такім чынам, каб рэшты ўкладаў, унесеных да 28 ліпеня 1993 года, засталіся ў ранейшых сумах. Кампенсацыі па Мінскай вобласці складаюць 17,3 мільярда рублёў.**

На гэтым сесія абласнога Савета закончыла сваю работу.

***Падрабязная справаздача з сесіі будзе апублікавана ў "Мінскай праўдзе".***

## У ПОШУКАХ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ

Прэс-канферэнцыя, якую правялі члены ўрада, тычылася вынікаў сустрэчы кіраўнікоў урадаў СНД у Маскве, аднак на ёй значнае месца было адведзена і іншым актуальным праблемам эканомікі рэспублікі. Звыш 24 пытанняў было разгледжана на пасяджэнні кіраўнікоў урадаў у Маскве, прэм"ер-міністр Міхаіл Чыгір спыніўся на асноўных з іх. Кіраўнікі ўрадаў Садружнасці, разгледзеўшы мемарандум Савета кіраўнікоў дзяржаў аб асноўных напрамках інтэграцыйнага развіцця СНД, рэкамендавалі яго на кастрычніцкае пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў. Паводле слоў Міхаіла Чыгіра, урады дзяржаў Садружнасці былі адзіныя ў разуменні неабходнасці больш цеснага супрацоўніцтва, таму складанасцей з падпісаннем дакументаў не было. Кіраўнікі ўрадаў разгледзелі палажэнне аб Міждзяржаўным эканамічным камітэце, які, адзначыў прэм"ер, возьме на сябе функцыі наддзяржаўнага органа СНД і будзе садзейнічаць найбольш актыўнаму ўдзелу ўсіх дзяржаў Садружнасці ў Агульным рынку. Як варыянт, Расіяй было прапанавана размясціць яго ў Маскве. Таксама разгледжана пытанне аб прынцыпе размеркавання галасоў у МЭКу, які лёг у аснову пры разглядзе ўсіх фінансавых пытанняў. У прыватнасці, за Расійскай Федэрацыяй прадугледжана 50 галасоў, за Украінай — 14, за Беларуссю, Узбекістанам, Казахстанам — па 5, за астатнімі — па 3 галасы. Паводле слоў М.Чыгіра, такі падыход зменшыць удзел Беларусі ў фінансаванні тых або іншых органаў Садружнасці, а таксама мэтавых праграм. Найбольш важнымі былі пытанні, якія датычаць Мытнага, Валютнага і Плацежнага саюзаў. Падпісана пагадненне аб парадку пераводу грашовых сродкаў грамадзянам па сацыяльна значных плацяжах / пенсіях, дзяржаўных дапамогах, аліментах і г.д./. Разгледжаны шэраг пытанняў, звязаных са святкаваннем 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Прэм"ер-міністр і члены ўрада адказалі на цэлы шэраг пытанняў. 14 верасня, паводле слоў віцэ-прэм"ера С.Лінга, антыкрызісная праграма будзе прадстаўлена на пасяджэнні калегіі Міністэрства эканомікі, а к 16 верасня, як мяркуецца, будзе гатовы канчатковы яе варыянт для прадстаўлення ў Вярхоўны Савет. Антыкрызісная праграма, адзначыў С.Лінг, — гэта не праграма надзвычайных мер, а пералік неадкладных мер, якія павінны быць прыняты ў бліжэйшы час на перыяд да ліпеня 1995 года. У ёй, адзначыў ён, гэтыя меры ўвязаны ў адзіны блок з грашова-крэдытнай і падатковай палітыкай. Паводле слоў С.Лінга, урад будзе весці жорсткую палітыку з мэтай урэгулявання гандлёвага балансу, для гэтага адзначана неабходнасць узмацнення магчымасцей па экспарту і скарачэння імпарту. Распрацоўшчыкі антыкрызіснай праграмы прадугледжваюць змяншэнне залежнасці ад аднаго манапаліста-пастаўшчыка і спрабуюць усё зрабіць для таго, каб быў больш прывабным экспарт не толькі ў Расію, але і іншыя дзяржавы. Хоць, адзначыў віцэ-прэм"ер, рынак на сённяшні дзень усё ж застаецца ў Расіі. С.Лінг падкрэсліў таксама, што ўрад не збіраецца поўнасцю капіраваць шлях рэформ у Расіі, а прадугледжвае свой, беларускі шлях. У цэлым антыкрызісная праграма — гэта праграма рыначных рэформ, сказаў ён. На прэс-канферэнцыі прысутным паведамілі, што ў бліжэйшыя 10 дзён будуць пагашаны даўгі за нафту, а ў кастрычніку — за газ, па бягучых плацяжах ідзе разлік за спажыванне энергарэсурсаў. Удзельнікі прэс-канферэнцыі даведаліся таксама аб узбуйненні грашовых купюр і аб тым, што Нацыянальны банк размясціў заказ на наяўныя грошы.

*БЕЛІНФАРМ.*

## 100 МІЛЬЁНАЎ — НА ПУЦЁЎКІ

У вытворчым аб"яднанні "Мінскаблнафтапрадукт", што ў гарпасёлку Фаніпаль Дзяржынскага раёна, штогод прафсаюзны камітэт сумесна з адміністрацыяй многае робяць для арганізацыі летняга адпачынку рабочых і служачых. Так, звыш 150 сем"яў сёлета адпачывалі на поўдні Украіны, для чаго было выдзелена больш як 100 мільёнаў рублёў. Група працаўнікоў па пуцёўках прафсаюза праходзіла курс лячэння ў Мінскай гразелячэбніцы, многія паправілі сваё здароўе ў санаторыях і дамах адпачынку рэспублікі. Усе выдаткі ўзяў на сябе прафком аб"яднання.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

Валянціна Сямёнаўна Дварэцкая з БУ-68 мінскага трэста № 4 працуе на будоўлях амаль сорак гадоў. Можа не толькі тынкаваць, а і плітку пакласці.

Калі фатаграфавалі яе з сяброўкамі, Валянціна Сямёнаўна напомніла нам, каб не забылі мы і пра Марыю Канстанцінаўну Лебедзь, іхняга прараба, якая аддала аддзелцы памяшканняў (малярка, тынкоўка, укладка паркету, лінолеуму, мазаікі) дваццаць шэсць гадоў. Трыццаць пяць гадоў працоўны стаж у маляра Афанасіі Лявонцьеўны Жук. Іх вы і бачыце на здымку (справа — налева). А далей ідуць Яўген Захаравіч Бярковіч, прараб БУ-13 трэста №4, і яго падначаленыя — тынкоўшчыцы Святлана Паўлаўна Кірыленка і Валянціна Мікалаеўна Мініна. Гэта яны клалі апошнія мазкі на новым будынку Мінскага педагагічнага каледжа, які гасцінна расчыніў дзверы ў пачатку верасня.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ПРЫЧЫНА ЦЯЖКАСЦЕЙ — НЕ ЗАСУХА

Спякотнае надвор"е істотна адбілася сёлета на ўраджаях бульбы і агародніны. Аднак гэта не выклікала [illegible] разгубленасці ў работнікаў Уздзенскага каапнарыхтпрома. Яны цвяроза ацанілі абстаноўку, пачалі шукаць выйсце. І яно знайшлося. Тую колькасць агародніны, якую не маглі паставіць насельніцтва і гаспадаркі раёна, закупілі ў іншых раёнах і абласцях рэспублікі, блізкім замежжы. Як вынік, засолена некалькі тон памідораў, 24 тоны агуркоў, што больш леташняга.

Асаблiва гарачая пара для нарыхтоўшчыкаў была ў жніўні. У засолачным цэху з раніцы да вечара пад кіраўніцтвам загадчыцы Алы Працкевіч і кладаўшчыцы Людмілы Нісцюк рабочыя Людміла Сізова, Людміла Астравух, Рэгіна Пукач і Эма Аленская хутка і якасна рабілі засолку агародніны. Гарантыяй добрай яе захаванасці з"яўляецца наступная акалічнасць: цэх знаходзіцца на самым беразе рэчкі Уздзянкі. Бочкі з агароднінай пастаўлены ў ваду — ажно да зімы.

Паспяхова справіліся з адказным заданнем рабочыя Ігар Астравух і Андрэй Глебка, якія рыхтавалі тару пад саленні.

— Днямі ў складскія памяшканні завезена тры тоны цыбулі, тона перцу, іншая агародніна, — расказвае таваразнаўца сельгаспрадукцыі Лідзія Матусевіч.

Дарэчы, Лідзія Георгіеўна паказвае асабісты прыклад. На сваім прысядзібным участку яе сям"я вырасціла і прадала каапнарыхтпрому 300 кілаграмаў ранняй бульбы. Так зрабілі і фермеры Мікалай Герман, Юрый Дабрынеўскі, якія прадавалі раннюю бульбу, капусту, моркву.

І ўсё ж ёсць праблема ў нарыхтоўшчыкаў, якая патрабуе вырашэння. Гэтая гандлёва-вытворчая арганізацыя практычна не мае грошай для закупу агародніны. Таму не можа своечасова разлічыцца са сваімі пастаўшчыкамі, што істотна стрымлівае нарыхтоўкі. Значыць, прычына нашых бед не засуха, а гаспадарчая неразбярыха, якую ніяк не можам пераадолець.

*Міхаіл БУЛАТ, супрацоўнік уздзенскай раённай газеты "Чырвоная зорка".*

■ Актуальнае інтэрв"ю

## В.ЧАРНАМЫРДЗІН: "ШКАДУЮ, ШТО АБ"ЯДНАННЕ НЕ АДБЫЛОСЯ"

**Аб"яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі, на якім будаваліся і разбураліся палітычныя кар"еры, паступова сыходзіць з першых палос газет. Усё часцей выказваецца думка, што пытанне аб"яднання стане для рэспублікі не такім актуальным пасля зняцця іншых перашкод для цеснага супрацоўніцтва, у прыватнасці, мытных бар"ераў. Што думаюць наконт гэтага прадстаўнікі Расіі? Карэспандэнт Белінфарма папрасіла адказаць на данае пытанне кіраўніка ўрада Расійскай Федэрацыі Віктара ЧАРНАМЫРДЗІНА.**

— Да стварэння адзінай рублёвай зоны ў свой час Расія і Беларусь падышлі ўшчыльную. І я вельмі шкадую, што аб"яднанне грашовых сістэм не адбылося, паколькі год таму назад гэты крок быў магчымы і рэальны. Сёння навярстаць упушчанае будзе вельмі цяжка, бо сітуацыя ў нашых дзяржавах, я маю на ўвазе эканоміку, істотна змянілася. Узяць хоць бы той факт, што сярэдняя заработная плата ў Расіі ў дзесяткі разоў вышэйшая, чым у Беларусі. Сёння аб"яднанне азначала б, што Расія ўзвальвае на сябе цяжар дадатковых праблем суседняй дзяржавы. Мы не можам сабе гэтага дазволіць. Таму размова пра аб"яднанне грашовых сістэм можа ісці толькі тады, калі ўзровень эканамічнага развіцця Беларусі аднолькавы з расійскім.

Такі падыход датычыцца не толькі рублёвай зоны, але і мытных праблем. Калі ўжо я, удзельнік усіх падзей апошніх гадоў, застаўся адзін з нямногіх, то дазволю сабе напомніць, што Расія ні з кім першай мытных застаў не паставіла. Мы прасілі і папярэджвалі: не рабіце гэтага, не спяшайцеся, давайце падумаем, агледзімся. Нас не паслухалі, у тым ліку і Беларусь. Цяпер крытыкуюць: маўляў, Чарнамырдзін у адказ на прапановы скасаваць мытні толькі разводзіць рукамі. Але ж сёння наскокам ліквідаваць мытні нельга, яны ўжо выконваюць пэўныя функцыі па кантролю за прадукцыяй, якая паступае на знешні і ўнутраны рынак, транзітнымі грузамі. Пазбавіцца гэтага можна толькі пры пэўным узроўні ўзаемаадносін паміж дзяржавамі.

***— Віктар Сцяпанавіч, у сувязі з магчымым прыняццем у рамках Садружнасці новых эканамічных пагадненняў ці будзе Расія па-ранейшаму крэдытаваць дзяржавы СНД?***

— Так. Мы крэдытавалі дзяржавы і ў рамках разумнага будзем працягваць гэта рабіць. Як вы ведаеце, Расія дапамагла ў станаўленні нацыянальных валют многіх краін і, па меры неабходнасці, дапаможа зноў. І не варта гэта расцэньваць як паслугу. Такімі крэдытамі мы дапамагаем і ўласнай эканоміцы, паколькі ў канчатковым выніку крэдыты ідуць на аплату прадукцыі расійскіх прадпрыемстваў або на вытворчасць тавараў, якія неабходны Расіі. Таму што ланцужкі эканамічных сувязей у нас усталяваліся вельмі складаныя. Напрыклад, мы пастаўляем нафту на Украіну, дзе яна перапрацоўваецца і затым у выглядзе асобных кампанентаў паступае на расійскі рынак як сыравіна для хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці. Такія ланцужкі, прычым у розных галінах эканомікі, існуюць і з Беларуссю. І іх трэба ўмацоўваць, у адваротным выпадку дзяржавам прыйдзецца нагрувашчваць у сябе велізарную колькасць розных прадпрыемстваў. І, на мой погляд, разначытанняў у гэтым пытанні быць не можа. Могуць быць рознагалоссі ў ходзе рэалізацыі, у заканадаўстве, але не ў галоўным. Дарэчы, што датычыць заканадаўстваў дзяржаў, то яны часам з"яўляюцца істотнай перашкодай, і мы ставім пытанне аб тым, што заканадаўствы неабходна нейкім чынам прыводзіць да агульнай роўніцы, каб яны не былі перашкодай, а садзейнічалі ўстанаўленню цесных эканамічных кантактаў.

***— Як хутка могуць быць зблізаны заканадаўствы, каб пагадненні, якія напрацоўваюцца ў рамках Садружнасці, ажыццяўляліся?***

— Чым хутчэй — тым лепш.



### НАДВОР'Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, без ападкаў. Тэмпература паветра — 23—28, у Мінску — 24—26 градусаў цяпла.*

## ЛАМАЦЬ — НЕ БУДАВАЦЬ

Ломка сістэмы аздараўлення працоўных і дзяцей, якая складвалася гадамі, аказалася неабдуманым крокам. З арганізацыяй дзяржаўнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва становішча спраў не толькі не палепшылася, як меркавалася раней, а значна пагоршылася. Толькі ў аграпрамысловым комплексе вобласці сёлета выдадзена пуцёвак на лячэнне і адпачынак напалавіну менш, чым летась. У самым горшым становішчы апынуліся калгаснікі і іх дзеці. Раней іх аздараўлялі за кошт цэнтралізаванага фонду сацыяльнага страхавання праз аб"яднанне "Белміжкалгасздраўніца". Цяпер пуцёўкі размяркоўваюцца праўленнем фонду "Здароўе" прапарцыянальна колькасці працуючых ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. У выніку ўдзельная вага пуцёвак для хлебаробаў рэзка скарацілася.

Упершыню не ўсе лагеры для дзяцей былі падрыхтаваны да адкрыцця, а колькасць аздароўленых дзяцей у аграпрамысловым комплексе скарацілася напалавіну.

Пераважная доля расходаў на рамонт лагераў перакладвалася на гаспадаркі. А ў іх і для сябе грошай не хапала. Не было за што набываць інвентар, абсталяванне...

Улічваючы ўсё гэта, пленум абкома прафсаюза работнікаў АПК прыняў зварот да Прэзідэнта. Сутнасць яго — неабходна навесці парадак з аздараўленнем працоўных, функцыі па яго арганізацыі зноў павінны перайсці да прафсаюзаў.

## ВОСЕНЬ. У ЗЛАДЗЕЯЎ "РАБОТ" ВОСЕМ

Прытым у начную змену. Калі ўсе спяць. Вось і выходзяць яны ў «дазор». Не ахоўваць, а прыхоўваць. Тое, што вырашчана мазалём. Агідна, але факт: не перавяліся людзі, якія ў пенсіянера могуць забраць апошняе.

Вось з Барысава прыйшло паведамленне. Ноччу ў пенсіянеркі выкапалі 50 кустоў бульбы, а ў другой «рэквізавалі» 10 качаноў капусты, 20 кілаграмаў морквы, буракоў, іншай гародніны.

Пацярпеў ад начных візітаў і пенсіянер з Астрашыцкага Гарадка. Раніцой ён недалічыўся 40 кілаграмаў капусты.

«Пашанцавала» і грамадскаму сектару. У Мінскім раёне з поля саўгаса «Бараўляны» ўкралі бульбу, выкапалі на корані. Начныя зладзеі затрыманы. Абодва нідзе не працуючыя, адзін — з Мінска, другі — з Калодзішчаў.

Аналагічная гісторыя здарылася ў калгасе «Новы шлях» Мінскага раёна. Групоўка была затрымана супрацоўнікамі міліцыі.

*Ірына КАНСТАНЦІНАВА.*

Служба 02

## И ОДИН В ПОЛЕ ВОИН

Есть на Пуховичском направлении железной дороги линейный пункт милиции, который возглавляет А.Булкин. В должности Александр Михайлович менее года. Ранее работал милиционером на станции Руденск, затем командиром взвода Минского ОВД на транспорте. А всего в органах внутренних дел почти полтора десятка лет. Участок обслуживания солидный — от станции Колядичи до станции Талька. Это три станции и четырнадцать остановочных пунктов. Протяженность — 70 км. И на все это хозяйство — один, как перст. Раньше был милиционер на станции Руденск, но с уходом Булкина должность там сократили. Кабинетик на вокзале до сих пор пустует. Есть, конечно, зональные сотрудники по линиям служб в столичном отделе, часто приезжают для оказания помощи. «Подбрасывает» отдел и группы для сопровождения электропоездов, но станции остаются неприкрытыми. А тут еще частые дежурства в столице.

Как-то, будучи в оперативной группе на Минском вокзале, проверял паспортный режим в гостинице «Экспресс». В одном из номеров обратил внимание на гостью из Татарстана. Оказалось, что это — торговка наркотиками. У нее изъято свыше килограмма «сена» — сухой маковой соломки.

На участке обслуживания только в этом году зарегистрировано 9 преступлений — сказывается близость Минска. К чести Булкина и зональных оперативников из столицы, все они раскрыты.

Однажды путевой мастер заявил, что со станции Пуховичи похищено два рельса на полтора миллиона рублей. Рельсы, судя по следам, увезли на тракторе. Объездив новостройки, колхозы и совхозы, предприятия и кооперативы, Булкин через несколько дней установил, что рельсы похитили «предприниматели» из кооператива «Строитель».

Раскрывать преступления на участке старшему лейтенанту помогают личное знакомство с работниками транспорта, со многими руководителями близлежащих предприятий и колхозов, а также его депутатский статус (Булкин — депутат Руденского поселкового Совета).

Однажды во втором часу ночи ему позвонил дежурный милиции и сообщил, что в ночной электричке «Минск—Осиповичи» совершен грабеж, дал приметы подозреваемых. Булкин попуткой выехал на станцию Руденск. Вместе с прибывшими начальником криминальной милиции В.Рудневым, другими оперативниками опросили дежурных по станциям, кассиров, провели другие оперативно-розыскные мероприятия и к концу дня установили пятерых несовершеннолетних из поселка Михановичи, совершивших преступление. Возбуждено уголовное дело, двое подозреваемых арестованы. В электричке они зверски избили одного мужчину и ограбили другого.

«Медная лихорадка», охватив всю республику, не обошла стороной и железную дорогу. На участке Булкина то тут, то там начали вырезать с путей дроссельные перемычки. Ни засады, ни рейды, ни массированные отработки участка положительных результатов не дали. Старший лейтенант побывал во всех бригадах путейцев, наметил совместные меры. Бригадиру пути станции Талька М.Павловичу удалось обнаружить злоумышленников. Ими оказалась семья бомжей из Брянска, которая приехала в Беларусь делать бизнес. При них были вещмешки, инструменты для вырезания перемычек и... малолетняя дочка. Ежедневно они выезжали на разные участки дороги, где делали свое черное дело. Лом меди сдавали в приемные пункты Минска. Ночевали в подвале.

Сейчас возбуждено уголовное дело, проводится расследование. М.Павлович награжден денежной премией.

Наша беседа была прервана телефонным звонком. На станции Руденск вырезали полтора метра кабеля. Булкин поспешил туда.

*Игорь СТАНКЕВИЧ.*

